 





# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 5 (1144) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 29 СТУДЗЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.


Гутарка дзядзькі Максіма

## ДОБРА... КАБ ЛЕПШ

Ад самай раніцы сабраліся мы ля тэлевізара, каб выслухаць прамову Эдварда Герка, з якой ён ад імя Палітбюро Цэнтральнага Камітэта партыі выступіў у час другой краёвай канферэнцыі ПАРП.

Шчыра, проста па-бацькоўску падводзіў ён вынікі штодзённай, карпатлівай нашай працы. Праўда, сцвярджаў ён, што не ўсё нам удалося так, як мы гэтага спадзяваліся, бо не жывем мы адны ў свеце, бо не маем уплыву на пагоду, бо жыццё заўсёды бывае болей складанае, чымсьці гэта здаецца найбольш разумным людзям, якія плануюць развіццё нашай гаспадаркі.

Але хопіць аб цяжкасцях! Гэтыя два гады, вынікі якіх падводзіў Эдвард Герэк, былі запоўнены гістарычнымі заваяваннямі. Распачаў працу гігант металургічнай прамысловасці — гута „Катовіцы“, многія іншыя металургічныя заводы прайшлі грунтоўную абноўку, у Глогаве распачаў працу другі камбінат для перапрацоўкі меднай руды...

— Кінь ты гэтыя гуты! — спыніў мяне Сямён. — Я звычайныя вілы для гною не заўсёды магу купіць, а ты мне пра гэтыя...

Патлядзеў я на яго і хацеў ужо сказаць, што дурны ён як варона, бо далей уласнага носа нічога ўжо не бачыць, але замест лаяць запытаў:

— А сыны твае дзе? Дзе працуюць? Дзе жывуць?

— То ж сам ведаеш, што адзін у Беластоку, а другі на Шлёнску.

— І пэўна ў новенькіх кватэрах?

— А то ж як!

— Бачыш, а ты тут мне пра вілы. Пройдзе год, і мы забудзем пра дробязі, якія нам зараз дакучаюць. Дробязі забудзем, але звыш паўмільёна сем'яў, якія за гэты час справілі наваселле, не забудуць сваёй радасці. Будуць памятаць свой першы дзень на працы мільён дзвесце тысяч дзяўчат і юнакоў. І таму так важны ўсе гэтыя фабрыкі і гуты, і чыгункі, і шахты, і ўсё... ўсё іншае.

І таму неяк мне і сумна, і крыху сорамна, што адстае наша сельская гаспадарка. З прамовы таварыша Герка вынікае, што сяляне, значыць усе мы разам, далі дзяржаве на тры з палавінаю працэнта менш сельскагаспадарчых прадуктаў, як два гады таму назад. Чаму?

Пэўна, трэба абсеяць кожную дзялянку зямлі, трэба ўгнаіць і скасіць кожны кусочак сенажаці. Гэта само сабой разумеецца. Але тады... такая ў мяне ўзнікае думка, каб кожны з нас дадаткова аставіў для далейшай гадоўлі хаця б па аднаму цяляці, па аднаму парсюку...

І яшчэ адно. Гэта праўда, што цяпер у многіх нашых вёсках асталіся, як кажуць, дзед ды баба — амаль адны пенсіянеры. Людзі гэта не надта ж патрабавальныя, хопіць ім тых грошай, што прыносіць ім кожны месяц пісьманосец. Яны аднак, маюць хлявы, клуні... Маюць шмат часу. Чаму ж гэтым пенсіянерам не даць дадатковы карысны занятак? Карысны для іх і для дзяржавы. Хай яны ў сваіх хлявах і клунях гадуюць цялят, хай кормяць свіней! Толькі трэба стварыць дзеля гэтага спрыяльныя ўмовы. Здаецца мне, што найлепшым арганізатарам гэтай справы маглі б быць спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў. Як вы думаеце? Бо абыякавымі нам нельга аставацца. Нам неабходна адгукнуцца канкрэтнымі вынікамі сваёй працы, каб не толькі было добра, каб было яшчэ лепш...

**Максім Нурэцкі**



*Максім Бручка паказвае аздабленні вокнаў і ганка.*

## Карункі Максіма Бручкі

Максім Бручка з Плёсак (гміна Бельск) — здольны і спрактыкаваны столяр. Рамяству гэтаму прысвяціў ён многа гадоў свайго жыцця. Будаваў хаты, рабіў дзверы, вокны. Але найбольш ён вядомы з-за драўляных аздабленняў на вуглы і вокны дамоў і на ганкі. Прыгожа аздобіў ён свой дом. Колькі тут усялякіх надваконнікаў і навугольнікаў і якія прыгожыя яны! Многа іх зрабіў Максім Бручка і суседзям і жыхарам з іншых вёсак. Да яго наведваліся нават этнографы з Лодзі. Бралі разрысоўкі і гатовыя аздабленні ў музей. Ім вельмі спадабалася іх арыгінальнасць, прастата і прыгажосць.

Максім Бручка ахвотна паказваў, як робіць гэтыя „карункі“ для ўпрыгожвання дамоў. Паказаў нам свае новыя ўзоры з самым розным арнаментам. Імі можна захапляцца!

Жыхар Плёсак вядзе звыш 8-гектаровую гаспадарку. Сталяркай найбольш займаецца зімою. Заказаў хапае: і на будаўнічую сталярку, і на драўляныя аздабленні вакон і ганкаў.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Хата Максіма Бручкі.*

Новыя вершы

### Я З ПУШЧЫ...

*Я з пушчы прыйшоў,*
*пушчанец,*
*Ад сосен сваіх, ад бяроз.*
*Прынёс за спіною не ранец,*
*А ранак сунічны прынёс.*
*Паветра мядовасці весняй*
*Агучыў сасновай струной.*
*Усё тут, ад хлеба да песні,*
*Ад вечнае пушчы са мной.*
*Дрымотна зімою у пушчы.*
*Чакаеш з відна да відна,*
*Як з лёдавага скалярушча*
*Праклюнецца зябка вясна.*
*Тады лугавінаю боса*
*Трава пабяжыць за табой.*
*Тады аднаго толькі бойся —*
*Зязюлі тутэйшай, скупой.*
*А каб зразумець канчаткова*
*Пушчанскую нашу душу,*
*З той казкі зялёнай*
*вясновай*
*У лета я восень прашу:*
*Багатай парой прадзімнаю*
*І сейбіты, і вазакі*
*У кірмашовым прэзідыуме*
*Сядзяць сабе, як казакі.*
*У кошыках,*
*кадзях,*
*вязанках*
*Пушчанскія млеюць дары.*
*Вясёла, каліна-пушчанка,*
*Цыганскай зарою гары!*
*Я з пушчы прыйшоў,*
*пушчанец,*
*Ад сосен сваіх і бяроз,*
*Прынёс за спіною не ранец,*
*А ранак сунічны прынёс.*
*Мой ранак заўсёды са мною,*
*У горадзе я не ў гасцях.*
*Крыляе, шуміць за спіною*
*Зялёная пушча,*
*як сцяг.*

**Казімір Камейша**

Ян Пуль з Крынак і яго кажуховыя іконы — гэта ўжо легенда, хоць яму, стройнаму і сімпатычнаму мужчыну, яшчэ далёка да сарака. Жыхары Крынак нават звыкліся з разваліcтымі кадзілакамі і мерседэсамі, што намагаюцца праціснуцца вузенькімі ды калдобістымі вулачкамі мястэчка да дома, дзе жыве мастак. Не затрымоўваюцца людзі, калі бачаць, як на яго падворак уліваецца натоўп некалькіх дзесяткаў экскурсантаў. Не здзіўляюцца таксама, як бачаць там абвешаных фотаапаратамі ды магнітафонамі журналістаў, што бясконца абпстрыкваюць сваімі пентаконамі ці лейкамі занятага працай пана Яся або падсоўваюць яму пад нос мікрафоны, каб барані божа не выраніць ні адзінага яго слова. І вядома, як то бывае заўсёды між людзьмі: адны ганарацца сваім земляком, другія зайздросным вокам глядзяць на арэол славы вакол яго асобы.

## ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

Дарога да славы была пакручастая. Хоць у сям'і было чацвёра малалетніх дзяцей, бацька пакінуў іх і выехаў у Саколку. Таму калі Я. Пуль успамінае сваё дзяцінства, то перш за ўсё перад яго вачыма ўсплывае вобраз загнанай горам маці, якая ў тыя цяжкія пасляваенныя гады цэлы дзень працавала ў гарбарні, каб зарабіць усяго на бохан хлеба. Прыносіла яго надвячоркам, клала на расхістаны стол і дзяліла накрыж для іх галодных чацвярых, а сабе пакідала нейкі там тоненькі акрайчык. Пра што-небудзь да гэтага сухога хлеба не магло быць і мовы. Нікому з дзяцей не трэба было тлумачыць, што ў жыцці яны могуць абаперціся толькі на саміх сябе. І гэтая апора аказалася самай надзейнай. Сёння сястра мастака, Ядвіга, працуе настаўніцай у Саколцы. Брат Вацлаў узначальвае ў Крынках аб'яднанне некалькіх сялян, што спецыялізуецца ў вырошчванні збожжа, у мінулым годзе яны даставілі дзяржаве 15 працэнтаў усяе колькасці ячменю, купленай у гміне. Брат, Мар'ян жыве на Шлёнску, ён — інжынер, у асноўным

(Працяг на стар. 4)

 




## БАГАДЗЕЛЬНЯ НАЦЫІ

У Заходнім Берліне ў гэтым навучальным годзе ўпершыню селі за парты больш як 18 тысяч дзяцей. Што чакае іх пасля заканчэння школы, нікому не вядома. Такі песімістычны вывад вымушаны зрабіць тыя, хто вывучае становішча выпускнікоў заходнеберлінскіх школ.

У Заходнім Берліне не хапае 1500 вучнёўскіх месцаў, каб даць выпускнікам гэтага года прафесіянальную падрыхтоўку. Вось і атрымліваецца, што толькі за адзін год беспрацоўе сярод моладзі павялічылася на 44,8 працэнта, г.зн. амаль падвоілася.

Не выпадковы такі песімістычны вывад ведамства па прагназіраванню занятасці. Нізкі ўзровень адукацыі большай часткі тых, хто закончыў школу, пазбаўляе іх якой-небудзь магчымасці „выбіцца ў людзі“. Існуючая ў Заходнім Берліне сістэма адукацыі з'яўляецца непераадольнай перашкодай для атрымання паўнацэннай адукацыі дзецьмі рабочых.

„Пачатковую школу“, якая складаецца з шасці класаў, наведваюць у Заходнім Берліне ўсе дзеці ва ўзросце ад 6 да 12 гадоў. Але затым пачынаецца іх падзел на тры тыпы нераўнацэнных навучальных установ. Больш як палавіна з іх наведвае асноўную школу, навучанне ў якой заканчваецца дзевятым класам. Невялікая частка (прыкладна 30-35 працэнтаў) вучыцца яшчэ адзін год у рэальнай школе. І толькі 10 працэнтаў заходнегерманскіх школьнікаў заканчваюць гімназію (з 7-га па 13-ы клас) і атрымліваюць права вучыцца ва універсітэце.

Такое драбленне навучальных устаноў не адпавядае зафіксаванаму ў канстытуцыі праву кожнага на атрыманне адукацыі. Сістэма асветы ў Заходнім Берліне кіруецца толькі інтарэсамі буйнага капіталу.

Ханс Хёпнер, галоўны рэдактар „Шпандаўэр фольксблат“, які выходзіць у Заходнім Берліне, назваў апублікаваныя ў сувязі з пачаткам навучальнага года лічбы размеркавання школьнікаў па тыпах навучальных установ „сумнымі“. Паводле яго слоў, „вяршыню піраміды“ адукацыі па-ранейшаму ў ярка выражанай дыспрапорцыі ўтвараюць дзеці, бацькі якіх з'яўляюцца чыноўнікамі высокіх і вышэйшых інстанцый, дзеці кіруючых асоб і прадстаўнікоў свабодных прафесій, у той час як дзеці рабочых прадстаўлены тут — у параўнанні з пачатковай школай — зусім нязначнай колькасцю. Затое яны складаюць большасць вучняў рэальнай і асабліва асноўнай школы“.

Менавіта гэтыя школы найбольш дрэнна абсталяваны і пазбаўлены самага неабходнага.

Эрых Фрыстэр, старшыня прафсаюза работнікаў асветы і навукі ў Аб'яднанні нямецкіх прафсаюзаў, сказаў: „Нашы пачатковыя школы — гэта антыканстытуцыйныя ўстановы. Класы занадта вялікія, памяшканні занадта маленькія, а настаўнікі недастаткова адукаваныя. Толькі цынікі могуць сцвярджаць, што ў нашых пачатковых школах асоба можа свабодна развівацца“. Вось і прыклеілася да гэтых школ жорсткая назва „багадзельня нацыі“.

Многія маладыя людзі вымушаны два-тры гады чакаць, пакуль перад імі расчыняцца дзверы універсітэта. І, нарэшце, той, хто пераадолеў усе гэтыя перашкоды і атрымаў дыплом аб заканчэнні універсітэта, зусім не мае ўпэўненасці, што будзе працаваць па сваёй спецыяльнасці. У адным толькі Заходнім Берліне не маюць работы 400 настаўнікаў — выпускнікоў педагагічных інстытутаў і нават універсітэта. Яны адносяцца да так званага „акадэмічнага пралетарыяту“.

**П. Б.**





*У лабараторыі нізкіх тэмператур і магутных магнітных палёў Інстытута фізікі Акадэміі навук БССР.*
*Фота з архіву „Нівы“.*

## Панарама беларускай навукі

У днях ад 15 снежня 1977 года да 6 студзеня 1978 года ў зале Дома савецкай навукі і культуры ў Варшаве экспанавалася першая самастойная беларуская выстаўка за рубяжом пад загалоўкам „Навука ў БССР“, арганізаваная Акадэміяй навук БССР, Галоўным праўленнем ТППР і Домам Савецкай навукі і культуры ў Варшаве.

Гэтая надзвычай цікавая экспазіцыя прадстаўляла дасягненні навукі Савецкай Беларусі ў 60-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

На выстаўцы экспанаваліся працы беларускіх вучоных 27 навукова-даследчых інстытутаў пяці аддзяленняў Акадэміі навук БССР, а таксама апаратура з розных галін навукі і тэхнікі.

Прадстаўленыя на выстаўцы планшы інфармавалі наведвальнікаў, што ў Акадэміі навук БССР працуе звыш 14 тысяч асоб, сярод якіх каля 190 дактароў і звыш 1 400 кандыдатаў навук, 59 акадэмікаў і 77 членаў-карэспандэнтаў, 4 лаўрэаты Ленінскай прэміі, 27 лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі СССР, 56 лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі БССР. 15 маладых вучоных удастоены прэміі Ленінскага камсамола.

Вучоныя Акадэміі навук БССР з'яўляюцца аўтарамі каля 3300 вынаходстваў. Невялікая іх частка — 160 экспанатаў і дакументаў увайшлі ў экспазіцыю выстаўкі, якая з'яўлялася своеасаблівым прызнаннем заслуг беларускіх вучоных у развіцці даследаванняў у квантавай электроніцы, спектаскапіі, люмінесцэнцыі, ядзернай энергетыцы, кібернетыцы, вылічальнай тэхніцы, цепла-масаабмене, прыборабудаванні і іншых галінах.

Інстытут фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў прадставіў на выстаўцы новыя штучныя крышталі-датчыкі, якія рэзка мяняюць свае ўласцівасці пры найменшым змяненні тэмпературы. Прадставіў ён таксама будаўнічыя матэрыялы, раўнамерна аплаўленыя каляровай плазмай. Вялікае зацікаўленне наведвальнікаў выклікалі інструменты з новага звышцвёрдага матэрыялу „Белбор“.

Інстытут тэхнічнай кібернетыкі паказаў на выстаўцы найскладанейшае аптычнае прыстасаванне для счытвання графічнай інфармацыі „Фатон 3“.

Фізіка-тэхнічны інстытут экспанаваў апаратуру для ратацыйнага рэзання металаў.

Інстытут агульнай і неарганічнай хіміі супольна з беларускім навукова-даследчым інстытутам пераліванне крыві паказаў новы спосаб стабілізацыі крыві, які выключае ўвядзенне ў кроў пастаронніх якасцей.

Інстытутам абмену цяпла і матэрыі прадстаўлены высока-эфектыўны цеплаабменнік для пастэрызацыі прадуктаў харчавання, а таксама спосаб для тэрмадыфузійнага раздзялення вадкіх сумясей вуглевадародаў.

Інстытут торфу прадставіў комплексныя грануліраваныя ўтнаенні, атрыманыя на аснове торфу.

Беларускія генетыкі паказалі новыя гатункі раслін, выведзеныя ў лабараторыі эксперыментальнага мутагенеза пры дапамозе адпаведнага напраменьвання. Новыя гатункі раслін атрымалі залатыя і сярэбраныя медалі на выстаўках за граніцай.

Інстытут мовазнаўства прадставіў „Дыялектычны атлас беларускай мовы“ і „Лінгвістычную геаграфію і групіроўку беларускіх гаворак“, а таксама розныя мовазнаўчыя слоўнікі.

Падчас экспазіцыі выстаўкі навуковыя працаўнікі Савецкай Беларусі выступілі з дакладамі:

— акадэмік В. А. Белы, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР — „Дасягненні навуковых працаўнікоў Беларусі ў 60-ую гадавіну Вялікага Кастрычніка“.

— кіраўнік аддзялення спецыяльнага канструктарскага бюро Інстытута перамены цяпла і матэрыі В. А. Нямковіч — „Згаранне газавага топліва ў кіпячым слаі“;

— навуковы працаўнік Інстытута фізікі Ул. Ул. Панцялееў — „Выкарыстанне ласераў у спектральна-атамным аналізе“;

— навуковы працаўнік Інстытута палімерычных сувязей В. Т. Карэцкі — „Палімеры ў будаўніцтве сельгасмашын“.

Многія наведвальнікі выстаўкі ў сваіх допісах у памятнай кніжцы згодна сцвярджалі, што вельмі шкада, што такая надзвычай цікавая выстаўка дасягненняў беларускіх вучоных не экспанавалася ў іншых гарадах Польшчы.

**Віктар Швед**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### НЕЗВЫЧАЙНЫ ДОМ

У новым жылым раёне Мінска — Серабранцы пабудаваны дзевяціпавярховы дом, які знешне нічым не адрозніваецца ад іншых. Аднак ён цікавы тым, што ў яго каркасе ўманціраваны калоны з высокатрывалага бетону. Яны дазволілі знізіць вагу дома і напалавіну скараціць расход жалезнай арматуры.

Гэты высокатрывалы бетон знаходзіць усё больш шырокае выкарыстанне. Зробленыя з яго апорныя калоны могуць прымяняцца пры ўзвядзенні шматпавярховых будынкаў. Важна таксама і тое, што такі матэрыял дазваляе знаходзіць цікавыя архітэктурна-планіровачныя рашэнні, зніжае кошт будаўніцтва.




**Гаспадары ўласнага лёсу ● Дні і гады Валянціны Сідарук з Войшак ● Вынікі конкурсу „Карэспандэнт года“ ● Сталінградская перамога ● М. Арол — нашаніўскі пясняр Беласточчыны ● Гаспадыні Бельскай гміны ● Весткі з Васількова, Катлоўкі, Бельска, Супраслі, Беластока ● Веснавыя жаночыя курткі ● Калі сняцца завяўшыя грыбы ● Кастусь шукае самагон ● Танга „Czarny czar“.**




**Sobota 28 I** — 9.00 Teleferie. 13.40 Program dnia. 13.45 Dziennik. 13.55 Obiektyw. 14.10 Radzimy rolnikom. 14.25 Dla dzieci. 14.55 Styczeń — kalendarz przyr. 15.35 Sport. 16.15 Latarnia czarnoksięska. 16.45 Martwy pejzaż — węg. dramat obycz. 18.15 Teleturniej. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 20.30 Cygan — fr. dramat sens. 22.15 Dziennik. 22.30 Kalejdoskop z O. Berti. 24.00 Kino Nocne.

**Niedziela 29 I** — 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Wielkie Polskie Bitwy: Raszyn — film dok. 11.45 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Tylko w Niedzielę. — 19.00 Wieczorynka. — 19.30 Dziennik. — 20.30 Czterdziestolatek — serial.

**Poniedziałek 30 I** — 9.00 Teleferie. 14.55 Program dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT (filozofia). 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dla dzieci: Fest. Widowisk Lalk. M. Wojtyszko „Trzynaste pióro Eufemii". 17.20 Sport. 18.10 Saga rodu Peliserów — ser. ang. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr. TV. „Niespodzianka". 21.35 Film dok. 22.15 Program rozrywkowy. 22.40 Dziennik. 23.10 Camerata. 23.40 Sygnały filmowe.

**Wtorek 31 I** — 9.00 Teleferie. 14.55 Program dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Kto czyta nie błądzi. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.10 Przed Opolem — pr. rozr. 17.40 Interstudio. 18.10 Świat, który nie może zaginąć — film przyr. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Jak cudne są wspomnienia — serial. 21.30 Świadkowie. 21.50 Sport. 22.40 Dziennik. 22.55 Magazyn Teatralny.

**Środa 1 II** — 9.00 Teleferie. 12.45 RTSS: J. pol. (39). 13.25 Mat. (46). 14.20 Program dnia. 14.25 Sport. 15.00 Melodie. 15.30 NURT (naucz. pocz.). 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Fest. Widowisk Lalk. „Królowa śniegu". 17.25 Los. Małego Lot. 17.40 Sport. 17.50 Myśliwska komedia — fab. film NRD. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Gang Olsena — kom. krym, duńsko-nor. 21.55 Sygnały filmowe. 22.25 Dziennik. 22.40 Sport.

**Czwartek 2 II** — 9.00 Teleferie. 12.45 RTSS: J. pol. (14). 13.25 Mat. (16). 14.55 Program dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Kino Filmów Anim. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Ekran z Bratkiem. 18.00 Poligon. 18.20 Serce? — A to Polska właśnie — pr. muz. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji: R. Chandler: „Kłopoty to moja specjalność". 21.35 Pegaz. 22.30 Sport. 22.45 Dziennik. 23.00 Sport: Mistrz. Europy w jeździe fig. na lodzie (jazda dowolna mężczyzn).

**Piątek 3 II** — 9.00 Teleferie. 12.45 TTR: Upr. rośl. (37). 13.25 Hod zwierz. (36). 14.55 Program dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT (psych.). 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Fest. Widowisk Lalk. „Baranki i opasły diabeł". 17.20 Opowieść o przyjaźni — serial ZSRR. 18.35 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 „Telewizor" — fab. film hiszp. 21.55 Dziennik. 22.10 Sport. 23.00 Sygnały filmowe.




**Piątek 27 I** — 7.40 Film fab. 17.15 Spektakl. 19.30 Z piosenką przez życie.

**Sobota 28 I** — 9.30 Film fab. 12.00 W świecie zwierz. 13.00 Hokej. CSKA—Spartak. 16.15 Filmy anim. 17.45 Film fab. 19.30 Panorama film. 21.05 Koncert.

**Niedziela 29 I** — 10.40 Koncert życzeń. 14.45 Panorama międzynar. 15.15 Koncert. 15.35 Film anim. 16.15 Koncert. 16.40 Klub film. 17.50 Film fab. 19.30 Boks ZSRR—USA.




**Białowieża** Człowiek z marmuru — pol. 31 I—1 II. Charley Varrick — USA 2—3 II. Biały Baszłyk — radz. 4—5 II.

**Bielsk Podlaski** Intryga rodzinna — USA 31 I—1 II. Sonata nad jeziorem — radz. 2—3 II.

**Czeremcha** Olśnienie — pol. 30 I—1 II. Maria — szwedz. 4—5 II.

**Czyże** Anno Domini 1573 — jug. Klatka — fr. 1—5 II.

**Dubicze Cerkiewne** Trudny jest tylko pierwszy krok — radz. Kurs — rum. 1—5 II.

**Gródek** Dziewczyna do dziecka — wł. 4—5 II.

**Hajnówka** Lato z kowbojem — czes. 1—2 II. Omen — ang. 3—5 II.

**Michałowo** Klatka — fr. 31 I—1 II. Wąwóz zapomnianych baśni — radz. 2—3 II. Werdykt — fr. 4—5 II.

**Mielnik** Piętaszek i Robinson — ang. 1 II. Barwy ochronne — pol. 4—5 II.

**Milejczyce** Zew krwi — ang. 1—3 II. Wielka podróż Bolka i Lolka — pol. 4—5 II.

**Narew** Przepraszam czy tu biją — pol. Skazańcy — buł. 1—5 II.

**Narewka** Cyrk w cyrku — czes. To jeszcze nie miłość — NRD 1—5 II.

**Nurzec** Przygody Robinzona Kruzoe — radz. 31 I—1 II. Pocztówka z polnymi kwiatami — rum. 2—3 II. Milioner — pol. 4—5 II.

**Orla** Syrenka i książę — buł. Opadły liście z drzew — pol. 1—5 II.

**Rajsk** Ucieczka Mr McKinleya — 1—5 II.

B.Z.Graf. Zam. nr 187 7.979 egz. N-4

У 140 ГАДАВІНУ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

# НА КАСТУСЁВЫХ СЦЯЖЫНАХ



*А. Гугель, Р. Кудрэвіч — Кастусь Каліноўскі.*

Ад невялічкага фальварку Каліноўскіх у Мастаўлянах каля Ялоўкі, дзе 21 студзеня (2 лютага па новаму стылю) 1838 года прыйшоў на свет Кастусь, асталіся толькі пакарэжаныя навальніцамі ды старасцю дрэвы. А колішні гасцінец, што праз Ялоўку вёў у другі фальварачак Каліноўскіх, Якушоўку, як і паўтара стагоддзя таму назад ўецца сярод сасновых пералескаў, пераскоквае з пагорка на пагорак і ў далінках патанае ў чорных лужынах. Гэта па ім, калдобістым, ездзіла Кастусёва бестурботнае дзяцінства, калі ён сядзеў у лёгкім вазку побач бацькі, прабягала палымянае юнацтва, як наступалі канікулы ў школе, цёмнай ноччу прабіралася паўстанчаская сталасць, бо навокал рыскалі казацкія атрады Мураўёва-вешацеля.

Жыццёвы гасцінец павёў Кастуся ў 1846 годзе з крытага саломай дворыка ў Якушоўцы ў гімназію ў суседняй Свіслачы. Недзе далёка на поўдні, вакол Кракава і на Галіччыне, шугала полымя сялянскага паўстання, а тут, ва ўзведзеным у стылі эмпір элегантным белаасценным будынку з юначых вуснаў не сыходзіла імя героя з-пад Рацлавіцаў, правадыра касінераў Тадэуша Касцюшкі, што родам з суседняй Брэстчыны. Трывала ўпісаўся ў памяць нядаўны выхаванак гэтай жа гімназіі, Віктар Гультман — заснавальнік Саюза свабодных палякаў, за што царызм і забраў яго на 25 год у салдаты. Успамінаўся і былы вучань са Свіслачы Ляон Зянковіч — паўстанец 1831 года, што разгарнуў актыўную палітычную дзейнасць на эміграцыі. А каму ж з гімназістаў не была блізкая постаць Юзафа Крашэўскага, нядаўна яшчэ тутэйшага вучня, а цяпер вядомага прагрэсіўнага віленскага журналіста і літаратара? Былі і многія іншыя. І за кожным з іх хацелася ісці ўслед, служыць свабодалюбівым ідэям.

Калі ж у 1855 годзе ў руках Кастуся быў ужо атэстат сталасці, не выпадкова яго пуцявіны павялі да роднага брата Віктара Каліноўскага, спачатку ў Маскоўскі, а потым у Пецярбургскі універсітэт. І там, ужо будучы студэнтам права, ён з галавой акунуўся ў чытанне рэвалюцыйнага „Колокола“ А. Герцэна, прагрэсіўнага „Современника“ Г. Бялінскага, палымяных артыкулаў М. Дабралюбава, М. Чарнышэўскага. Да самага світання зацягваліся яго размовы з членамі пецярбургскай польскай рэвалюцыйнай арганізацыі, якую ўзначальваў славуты З. Серакоўскі і да якой належаў таксама Віктар Каліноўскі.

Ужо з атрыманым у 1860 годзе універсітэцкім дыпломам кандыдата права зноў паявіўся Кастусь на гасцінцах родных ваколіц. Спачатку ў пошуках працы, але перад ім, „неблагадзейным“, дзверы на ўсе пасады ў царскіх установах былі закрыты, і клікаў-зваў шлях бескампраміснай барацьбы з царызмам. І ён увайшоў у рэвалюцыйную арганізацыю, у якой дзейнічаў таксама Валеры Врублеўскі — інспектар Лясной школы ў Саколцы. Калі ўвосень 1862 года ў роднай Якушоўцы паміраў ад сухотаў рэвалюцыянер Віктар Каліноўскі, яго родны брат, падпольшчык Канстанцін Каліноўскі разам з В. Врублеўскім, Ф. Ражанскім і іншымі сваімі вернымі сябрамі ў Беластоку ці ў Саколцы рыхтавалі выпуск чарговага нумара „Мужыцкай праўды“. Пісаў К. Каліноўскі свае артыкулы ў „Мужыцкай праўдзе“ на той мове, на якой размаўлялі сяляне каля Ялоўкі, Саколкі, Беластока, Гродна і падпісваў іх па-свойску — „Яська, гаспадар з-пад Вільні“.

А як у марозным студзені 1863 года ўспыхнула полымя паўстання, лясныя сцяжыны беларускіх зямель запоўніліся ўзброенымі дубальтоўкамі, косамі і дубінамі змагарамі, а над палянамі ўзвіўся дымок з паўстанчаскіх вогнішчаў. Па знаёмаму старому гасцінцу ў адзін з летніх дзён паскакаў атрад коннікаў, каб сабраўшамуся на плошчы ў Ялоўцы натоўпу сялян аб'явіць паўстанчаскі маніфест. І хіба ж чытаў яго Кастусь Каліноўскі.

І былі страшныя бітвы: у лясах з царскімі войскамі, што кулямі і шыбеніцамі намагаліся задушыць „мяцеж“, і ў Вільні на нарадах кіраўніцтва паўстаннем, дзе верхаводзілі памешчыкі, якія як агню баяліся народнай рэвалюцыі. Крывавыя, смяротныя гэта былі баі. Але пераможцам выйшаў Каліноўскі, ён узначаліў паўстанне.

Цэлы год царскія каты палявалі на чырвонага правадыра паўстання і здрада адкрыла ім яго таемныя сцежкі. Ноччу 28 студзеня (9 лютага) 1864 года Кастусь Каліноўскі апынуўся ў кіпцюрах Мураўёва-вешацеля, а ўжо 10 (22) сакавіка таго ж года ён ступіў на сваю апошнюю сцяжыну, што вяла да віселіцы на Лукішскім пляцы ў Вільні. І абарваўся шлях гераічнага змагання...

Ніхто не ходзіць з ірдзістымі ружамі на магілу Канстанціна Каліноўскага, бо нікому невядома, дзе яна знаходзіцца. Затое мы штодня ходзім яго паўстанцкімі шляхамі-сцяжынамі, што праляглі на вуліцах Беластока, Гродна, Вільна, прайшлі па Саколцы, Ялоўцы, Гарадку, прабеглі па многіх навакольных вёсках, асталіся ў лясной чашчобе паміж Нёманам і Бугам. І ходзім мы па іх, і не зарастаюць яны ніколі — неабсяжныя помнікі вялікаму нашаму герою.

**Мікалай Гайдук**

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ЛЯЧЭННЕ

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ВІТАЕ!

Цяжка ўжо сёння натрапіць на простыя народныя назвы хвароб, назвы, якія раней бытавалі ў штодзённым жыцці людзей. Развіццё навуковай медыцыны ўвяло за сабой сваю тэрміналогію, па-свойму акрэсліла крыніцу хваробы, увяло новыя спосабы лячэння. І ранейшая тэрміналогія пачала зарастаць забыццём. Асабліва, калі гутарка ідзе пра горла. Адгэтуль і агульная назва — „хваробы горла“. Найбольш вядомымі былі тры хваробы: павелічэнне паглынальных вузлоў, якую ў ваколіцах Заблудава называлі „шчымамі“, ангіна, званая „задаўкамі“, і запаленне міндалевай залозы, званай у ваколіцах Бельска „зэлезямі“.

Шчымы — гэта хвароба дзяцей. У горле дзіцяці паяўляліся дробныя гузачкі, якія моцна перашкаджалі пры дыханні і прыманні ежы. Дзіця было неспакойнае і часта моцна сціскала сківіцы, праз што раніла грудзі маці. Згодна з пераказаннямі людзей, на гэтую хваробу найчасцей хварэлі дзеці, маці якіх займалася чмутарствам. Падатнымі былі таксама і тыя дзеці, маці якіх, будучы цяжарнай прыглядалася спараванай жывёліне або зверам. Асабліва небяспечным было ўгледжанне спараваных сабак. Як і кожную хваробу, так і гэтую лічылі вынікам уздзеяння нячыстых сіл. Існавалі два спосабы лячэння: у Лубніках, што ў Заблудаўскай гміне, яшчэ ў саракавых і пяцідзесятых гадах было шырока распаўсюджана так званае „выціскание“, але часта ад гэтага ў дзіцяці паяўлялася заражэнне, і яно памірала. Больш таямнічым і магічным быў другі спосаб. Кумы, везучы дзіця хрысціць, выцягвалі з сухой мятлы развідленую галінку і забіралі з сабой. На першым скрыжаванні дарог раздзіралі яе і кідалі за сябе. Была гэта адна з форм пераймання хваробы прадметамі. На прыкладзе гэтага відаць, што хваробу пераймалі не толькі жывыя, але і мёртвыя прадметы. Вядомай і часта паяўляючайся хваробай была ангіна, званая „задаўкамі“. Назва, відаць, выводзіцца з характэрных рыс хваробы — цяжкасці глытання. Як і пры папярэдняй хваробе, існавалі два спосабы лячэння. Абодва амаль сходныя. Адным з іх быў спосаб так званага „здушвання“ намочанымі ў мёдзе пальцамі. Другі спосаб быў больш цікавым, бо апрача сціскання, вакол галавы абводзілі, згодна з сонцам, тры разы свечкай. Сцісканне, здушванне ці ім падобныя спосабы выступалі амаль пры кожнай хваробе горла. Таксама рабілі і з „зэлезямі“. Аднак выдушваць мог толькі чалавек маючы да гэтага спрыт. Таксама як пры іншых хваробах, і пры гэтай спосабы лячэння знаходзіліся ў цвёрдай таямніцы, у руках так званых вясковых „прафесіяналаў“. Толькі развіццё навуковай медыцыны прарвала гэтую шкарлупіну, і спосабы лячэння перайшлі ў народ.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**



Гарадскія замалёўкі.

*Будынак філармоніі ў Беластоку.* *Фота С. Рыбі.*

# ХВАРОБЫ ГОРЛА

Беларускі каляндар на 1978 год вітае чытача дзельна ўвіхаючыміся ля першага друкарскага станка людзьмі. Старажытная гравюра прадстаўляе першадрукароў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца ў друкарні ў Заблудаве, адкуль амаль паўтысячы гадоў таму назад яны неслі людзям святло навукі праз першае друкаванае слова.

Па сваёй структуры каляндар на 1978 год амаль ідэнтычны з Беларускім календаром — 77. Ёсць тут весткі аб Савецкай Беларусі і беларуска-польскіх сувязях, матэрыялы аб Беласточчыне, аб дзейнасці БГКТ, гістарычныя нарысы, рэпертуарны матэрыял для нашых спевакоў і г.д.

1978 год, аднак, гэта юбілейны год у развіцці беларускага літаратурнага і навуковага руху ў Народнай Польшчы. 20 год таму назад беларускай навуковай інтэлігенцыяй быў створаны навуковы гурток і тады ж узнікла беларускае літаратурна-мастацкае аб'яднанне „Белавежа“ ды пачалі ісці перадачы на беларускай мове ў Беластоцкім радыё. Дык у раздзеле „На ніве БГКТ“ знаходзім аж тры артыкулы, прысвечаныя гэтым падзеям.

Адзначэнне літаратурнага юбілею падмацоўваецца спорнай порцыяй твораў членаў „Белавежы“. А можа ў сувязі з юбілеем варта было б тут даць падборку хаця і друкаваных раней, але найлепшых, найцікавейшых твораў гэтых аўтараў?..

Падкупляе гістарычная частка календара. Рэдактару календара Міколе Гайдуку не чужая гэта тэматыка. Парушаў ён яе няраз як у сваіх арыгінальных апавяданнях, так і ў артыкулах. У Беларускім календары-78 можна прачытаць пра мінскі Дом-музей, дзе ў сакавіку 1898 года адбываўся першы з'езд РСДРП, які паклаў асновы першай марксісцкай партыі ў Расіі; можна вярнуцца ў далёкае мінулае беларускага народа напярэдадні ўзнікнення Вялікага княства Літоўскага; успомніць пра цяжкія часы акупацыі (Юры Туронак піша пра беларускую пачатковую школу на Свентаерскай вуліцы ў Варшаве, якая працавала ў 1942-44 г.г. — немцы дазвалялі адкрываць толькі пачатковыя школы,. — пра цяжкасці і перашкоды, якія стаялі на дарозе да яе стварэння і ў навучанні дзяцей, пра самаахвярных настаўнікаў Людмілу Панько, Клеапатру Паўлоўскую, Васіля Літвінчыка). У раздзеле „З мінулага“ змешчаны таксама цікавы нарыс Аляксандры Бергман пра др Ігната Дварчаніна, найбольш вядомага на землях Заходняй Беларусі і на Беласточчыне рэвалюцыйнага пасла ў сейм другога склікання (май 1928 — жнівень 1930 г.г.). Вінцук Склубоўскі ў 140 гадавіну з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага малюе яшчэ раз яго несмяротны вобраз як вобраз патрыёта і інтэрнацыяналіста.

Своеасаблівa афармлена сёлета каляндарная частка. Пад кожным месяцам змешчаны тут здымкі прац, якія выйшлі з-пад разца народных умельцаў з розных куткоў Беласточчыны. Тут і разьба ў дрэве Люцыяна Баруты з Драгічына, Уладзіміра Наумюка з Канюкоў, Міхася Баканача з Новага Ляўкова, тут і зубр, вырэзблены Юрыем Масайлам з Валілаў, тут і гіпсавыя фігуркі К. Святліцкага з вёскі Урочышчына Дуброўскай гміны, ёсць і драўляны, так званы белы посуд, зроблены майстрамі з ваколіц Белавежы і Гайнаўкі.

У календары невялікае месца займаюць парады. Датычаць яны здароўя чалавека, а таксама вучаць, як прадбачыць надвор'е. Трэба адзначыць, што на працягу апошніх гадоў парадніцкая частка ў календарах як бы паволі занікала. Ці яна непатрэбная? Столькі ж яшчэ ёсць спраў у нашым штодзённым жыцці, у якіх можна было б падказаць нашаму чытачу тое-сёе. Парадніцкая частка ў маім паняцці неяк непарыўна звязана з календарамі такога тыпу. Кампенсуюць яе багатыя даныя з сённяшняга дня і з мінулага. Гэтыя валёры календара яскрава сведчаць аб тым, для каго і дзеля чаго ён робіцца, бо кожны беларус, пражываючы ў Народнай Польшчы знойдзе тут пра сябе і для сябе тое, чаго не знойдзе ў ніякім іншым выданні.

Цікавую вокладку Беларускага календара на 1978 год запраектаваў Стэфан Рыбі.

Маленькая ўвага для рэдактараў наступных календароў: такі багаты і цікавы матэрыял, які змяшчаецца ў Беларускіх календарах, не мае права быць надрукаваны без вельмі старанай стылістычнай апрацоўкі.

**Ада Чэчуга**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Заціраецца след мінулага...

Прайшлі Каляды. Свята вясёлае, свята радаснае. Кожны чакаў „куцці", калі, як кажа стары звычай, чакаць трэба першай зоркі на небе. А калі ўжо тая зорка ўзыйдзе на небе, усе, бывала, хуценька сядаюць за стол вячэраць.

Маладыя варажылі ў той вечар, прыбіралі ёлку, а ўначы ішлі ў царкву, хто памаліцца, а хто проста „падарваць" хлапца ці дзяўчыну.

На першы дзень хадзілі каляднікі. Не так аднак, як цяпер. Цяпер да поўдня прыйдзе двое-трое і на тым канец. Помню, калісьці, калі яшчэ я і сама хадзіла калядаваць, было інакш. Трэба было ад свята Увядзення прасв. баг. (4.XII.) ужо вучыцца співаць, проста адпаведна рыхтавацца да свята і да калядавання. Трэба было выклеіць звязду, палічыць, колькі ў вёсцы навважэнцаў і нованароджаных, нарыхтаваць ім спецыяльныя песні. На такіх песнях можна было найбольш закалядаваць.

Ходзіш, бывала, да цёмнага вечара і нішто табе не перашкаджае: ні мароз, ні снег, ні зімовая завіруха. Хоць і не многа закалядуеш, але найважнейшае, што ходзіш, што співаеш. На другі дзень бяжыш чым хутчэй купіць цукеркаў і гэта была найбольшая радасць. Цяпер няма ўжо гэтай радасці. Цукерак дзеці маюць і так колькі хочуць, грошы таксама ім даюць...

А дзе ж прапалі „цыганы", якія таксама ў свята адыгрывалі вялікую ролю? Яны гуцалі дзяўчат і хлопцаў, а пасля прымалі іх у свае рады.

А чаму ж не высыпаюцца дарожкі попелам на гагатуху? Па дарожках гэтых хадзілі кавалеры да сваіх дзяўчат. Можа ўсё гэта проста таму, што цяпер свет зматарызаваны стаў і ніхто не ходзіць, а ездзіць ужо.

Заціраецца след мінулага. **(вл)**

## Без моста не паедзеш проста

Калі мярнічы рабіў камасацыю ў 1971 г. у вёсцы Слоя Шудзялаўскай гміны, то вызначыў новую дарогу праз агароды, проста да Шудзялава. Дарога гэта спалучыла б бышую гміну Бабікі з Шудзялавам. Але адна бяда, што праз гароды ідзе вада на сыходзе зімы і калі пройдуць большыя дажджы. Тут неабходна зрабіць мост, або хоць пропуст. Але ўжо канчаецца 1977 год, а маста, ані пропуста няма. Людзі, праязджаючы праз гэтую ваду, рвуць вужы і ломяць аглоблі. Так, напрыклад, Міхась Матулевіч з Кнышэвіч вёз з Шудзялава ўтнаенні і, праязджаючы праз гэту ваду, паламаў аглоблю і парваў вужы. Вымушаны быў тону ўтнаенняў выносіць на плячах, каб воз дастаць з вады. А Мечыслаў Рамазевіч з Шудзялава вёз каменне на базу і ўехаў у гэту ваду, дык парваў вужы і пастронкі і трэба было каменні скінуць. Цяпер людзі баяцца ехаць гэтай дарогай і едуць на шашу на Слойку, робяць круг у тры кіламетры. А некаторыя едуць польнай дарогай на сукавіцкую дарогу і робяць круг у два кіламетры.

Радныя ўжо на гмінnай сесіі ў Шудзялаве гаварылі, каб зрабіць мост або пропуст на гэтай дарозе. Начальнік гміны сказаў, што будзе калісьці там рабіцца меліярацыя, а цяпер ён не ведае, як мост зрабіць. А іншым разам сказаў: каб вёска Слоя чынам зрабіла пропуст, то ён дасць кругі. Але сяляне Слоі не ездзяць гэтай дарогай.

**Віт**

**Ад рэд.** Зразумела, што вёскі, якія найбольш карыстаюцца апісанай дарогай, павінны ўзяць справу ў свае рукі. Грамадскі пачын тут неабходны.

### ТЭЛЕВІЗАР ЗА 20 ЗЛОТЫХ!!!

У снежні 1977 года Ваяводскае праўленне ПЦК у Беластоку арганізавала латарэю. У кіёск „Рух" на чаромхаўскай станцыі было дастаўлена 750 лёсаў па 5 зл.

Вось Мікалай Маркевіч з Кузавы, атрымаўшы зарплату, пайшоў паспрабаваць шчасця. Купіў чатыры лёсы за 20 зл. Першы і другі былі пустыя, трэці — трапны! Тэлевізар!

Праз некалькі дзён шчаслівы чыгуначнік паехаў у Беласток і забраў свой выйграны тэлевізар вартасцю 10.600 зл. Як бачым, і ў Чаромсе жывуць шчаслівцы.

**(ус)**

## Каб ратаваць, трэба мець чым

Пажараў яшчэ многа ў нас здараецца і найбольш на вёсках. Тут і будынкі крытыя саломай яшчэ бываюць, але і іншыя прычыны ёсць. Часта ў час абмалотаў — гэта неасцярожнасць з агнём, або гульні дзяцей з агнём. Улады нашы стараюцца, каб у кожнай вёсцы быў супрацьпажарны басейн.

На жаль, яшчэ далёка да гэтага. Напрыклад, у вёсцы Слоя, Шудзялаўскай гміны таксама няма супрацьпажарнага басейна. У час камасацыі быў вызначаны пляц для пабудовы такога басейна. Прайшло аднак шмат гадоў і ніхто гэтым не заняўся. Жыхары вёскі пачынаюць штораз больш гаварыць пра басейн і час ужо, каб справа рушыла з месца.

**Віт**

### ПАПРАЎКА

У „Ніве" з 8 студзеня 1978 года № 2 (1141) у рубрыцы „Кажуць, што..." паявілася памылка. Ёсць: прадаўшчык з Сакоў, а павінна быць: прадаўшчык з Сацоў.

**М. Лук'янюк**

## І што вы скажаце?

28 снежня 1977 года я паехаў у чаромхаўскі ВДТ купіць цвікоў і фарбы. У $8^{00}$ гадзін прадаўшчыцы не было, хоць па распісанню мэблевая секцыя павінна ўжо працаваць.

Каля $8^{15}$ з'явілася прадаўшчыца і аб'явіла ўсім, хто таўпіўся ля крамы, што да абеда будзе прыём тавараў (а прыём тавараў быў ужо 27.12 і секцыя цэлы дзень не працавала). Людзі пачалі нервавацца. Ды прадаўшчыца зачыніла дзверы і ўсё!

Адкрыла краму каля гадзіны $9^{00}$. Я папрасіў цвікоў, бо якраз такія стаялі на прылаўку і паказаў адзін, узяўшы яго са скрынкі на прылаўку. Прадаўшчыца неахвотна паглядзела на мяне і прашыпела груба: „Адкуль пан яго ўзяў?.." Я кажу: „Ці вы не ведаеце, дзе ў вас цвікі стаяць?.." — і паказаў скрынку на прылаўку. А тая мне: „Не гарлапань тут мне!!!" — і так далей і так далей.

Нервы ў мяне пусцілі і давай я сароміць прадаўшчыцу. Яна ж намнога маладзейшая за мяне, а да таго — на службе. Абавязак службовы гаворыць, што да кліентаў трэба адносіцца ветліва і з пашанай.

Аб тым, што прадаўшчыца мэблевай секцыі і хатніх тавараў чаромхаўскага ВДТ крычыць на кліентаў, гавораць у пасёлку даўно. Аднак ніхто не хоча задзіраць з паняй „скляповай", бо заўсёды да яе трэба ў ласку ісці. Ці то перааццэненую мэблю, ці іншы дэфіцытны тавар дастане той, хто нізка кланяецца. І таму ўсе маўчаць. А наша пані „скляпова" расце, быццам на дражджах. Не шануе нікога — ні старога, ні малога. Праўленне кляшчэлеўскага ГС глядзіць на ўсе капрызы прадаўшчыцы, прыжмурыўшы вочы. А мо мясцовыя ўлады штосьці тут змогуць зрабіць? **(ус)**

## З інфармацыяй нешта не так

Варта задумацца над адным фактам. У Супраслі на галоўнай вуліцы 1 Мая аж 7 жыллёвых будынкаў маюць таблічкі, якія інфармуюць, што гэты дом падлягае ахове, бо ён — гістарычны помнік. Гэта наступныя нумары дамоў: 1, 2, 4, 8, 9, 10, 13. Але калі вы купіце ў кіёску „Рух" фальдэр пад загалоўкам „Супрасль", які выдала таварыства прыяцеляў Супраслі, прачытаеце ў ім, што на вуліцы гэтай помнікам з'яўляецца толькі „Дом супрасльскіх ткачоў" з II паловы XIX ст. Аўтары не падаюць, аднак, нумара гэтага дома. Усіх іншых нумараў не знойдзеце ў гэтым даведніку. Турысты дарма будуць шукаць у горадзе шырэйшай інфармацыі на 14 гістарычных аб'ектах. Ніякай інфармацыі акрамя таблічкі, што гэта помнік старыны, няма. Трэба, каб ваяводскі кансерватар заняўся гэтай справай.

**(гай)**

---

— Ды па вёсках гойсаюць! Казённыя рэчы на прадукты мяняюць і да сябе дадому пасылаюць! У іх немцы таксама ўсё пачысцілі. Люта яны немцаў ненавідзяць!

— А яны ж саюзнікі! — сказала Надзя.

— Гэтыя саюзнікі адзін аднаго на першым слупе павесяць.

Сонца пачало хіліцца да захаду. Палявая дарога ў далечыні выходзіла на шашэйную, прачэрчаную кароткімі лініямі тэлефонных слупоў. Справа, у нізіне, відаць былі дамы, разбітыя і пацямнелыя. Пакінутыя людзьмі, яны нагадвалі чымсьці старыя, закінутыя могілкі.

— Адэса хутка! — сказаў гаспадар і скоса зірнуў на дзяўчат.

Лена зразумела: ён сумняваецца ў тым, ці ёсць у іх дакументы. Ну што ж, можна яму прад'явіць. Або не варта больш выпрабоўваць лёс — развітацца з гаспадаром і паспрабаваць прабрацца ў горад, абышоўшы заставу.

Лена падышла да фурманкі ўшчыльную, заглянула ў яе, памацала паміж мяшкамі і раптам ускрыкнула:

— Стой!.. Стой!..

*(Працяг будзе)*



### ТАЯМНІЦЫ ПАДЗЯМЕЛЛЯЎ

Аб падземных калідорах у Супраслі і захаваных у іх скарбах ходзяць розныя легенды. Адно тут не падлягае сумненню: муры супрасльскіх падвалаў бываюць таўшчэйшыя, чым 1 метр. Што ў іх скрываецца? Напэўна многа гісторыі, старой і навейшай. Вядома, напрыклад, што ў падвалах аднаго дома ў час апошняй вайны была гітлераўская турма для мясцовага насельніцтва. Ведаем таксама, што самая старая частка будынка на вул. Канарскага 9 — гэта паказаная на здымку хата супрасльскага рыбака. **(гай)**

### ПАКРЫЎДЖАНЫЯ ВУЧНІ

Дарагая „Ніва", мы, вучні адрынoцкай школы, што ў гміне і пошце Нараў, звяртаемся да цябе з бядой. Бяда ў нас такая: мы выпісалі ў лістападзе 1977 года 31 экземпляр „Нівы" на I паўгоддзе 1978 года і вельмі цешыліся, што будзем чытаць яе (мы заўсёды выпісваем „Ніву" — хто вывучае беларускую мову і хто не вывучае).

Радасць наша была кароткая, бо атрымалі мы толькі 18 экземпляраў „Нівы". Звярнуліся мы да пісьманосца, у якога выпісвалі, але ён адказаў, што Гайнаўка забылася выпісаць. Мы даведаліся ад Гайнаўкі, што пошта Нараў колькі заказала, столькі і выпісала. Адзін на аднаго складае, а вінаватага няма. Нам вядома, што хочуць адаслаць грошы, але грошай мы не хочам. Нам трэба „Ніву"!

Гэта камедыя здарылася ўжо другі раз. Чаму нам адразу не паведамілі? Мы былі б выпісалі праз „Рух", а так цяпер засталіся без „Нівы".

Мы хочам, каб гэтае пісьмо было надрукавана і каб усе прачыталі аб тых, хто так „прыгожа" распаўсюджвае „Ніву".

**Шмат подпісаў вучняў школы ў Адрынках**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыяў „МОЖНА НОГІ ПАЛАМАЦЬ", „Ніва" № 44/1131 ад 30 кастрычніка 1977 года і „ЯК МОКРАЕ ГАРЫЦЬ", „Ніва" № 41/1128 ад 9 кастрычніка 1977 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W KLESZCZELACH.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Można nogi połamać", zamieszczoną w 44/1131 numerze tygodnika „Niwa", Zarząd Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska" w Kleszczelach informuje, że pomieszczenie sklepu w Grabowcu zostało uporządkowane: wstawiono szybę okienną, wymieniono kratkę schodową i odwieziono opakowania do Zakładu Gospodarczego WZSR.

Jednocześnie wyjaśniamy, że zaniedbania przedstawione w notatce w 41/1128 numerze „Niwy" wystąpiły w naszej spółdzielni z uwagi na występujące braki szkła okiennego oraz na trudności z transportem. Posiadamy trójstronne porozumienie zawarte z hurtem i Spółdzielnią Transportu Wiejskiego. Spółdzielnia zobowiązana jest do terminowego i sprawnego odbioru opakowań zarówno ze sklepów, jak i punktów skupu. Spółdzielnia Transportu Wiejskiego w Hajnówce jednak nie w pełni wywiązuje się z tego obowiązku, co spowodowało spiętrzenie się opakowań w sklepach i punktach skupu. Dopiero na kilkakrotne nasze interwencje telefoniczne i pisemne dokonywano odbioru opakowań.

Posiadanym szczupłym transportem gospodarczym dowozimy towary pochodzące z własnej produkcji i nie jesteśmy w stanie odbierać nagromadzonych opakowań.

Za opóźnienie w udzieleniu odpowiedzi bardzo serdecznie przepraszamy.

**Prezes Zarządu GS**
**N. Petelska**

**Да фельетона „МУЗЕЙ ВАНДАЛІЗМУ І НЯДБАЙНАСЦІ", „Ніва" № 49/1136 ад 4 снежня 1977 года.**

**Адказвае: GMINNY DYREKTOR SZKÓŁ W DUBICZACH CERKIEWNYCH.**

W odpowiedzi na felieton pt. „Muzeum wandalizmu i niedbałości" zamieszczony w tygodniku „Niwa" z dnia 4 grudnia 1977 roku wyjaśniam, że w porozumieniu z Naczelnikiem Gminy w Dubiczach Cerkiewnych postanowiliśmy zabezpieczyć budynek szkolny w Czechach Orlańskich przed dewastacją oraz zorganizować nad nim nadzór. Decyzja ta jest w toku realizacji. Na początku wiosny będzie naprawiony dach oraz wykonane obróbki blacharskie.

Ponadto zlecono dla Posterunku Milicji Obywatelskiej przeprowadzenie dochodzenia w sprawie ustalenia osób winnych niszczenia mienia społecznego.

**Gminny Dyrektor Szkół**
**inż. Jan Kopczuk**

**Да публікацыі „КРАМА БЕЗ ПРАДАЎЦА", „Ніва" № 51/1138 ад 18 снежня 1977 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W MICHAŁOWIE.**

W związku z zamieszczoną notatką prasową pt. „Sklep bez sprzedawcy" na łamach „Niwy" informujemy, że już wcześniej zwracaliśmy się z prośbą do sołtysa wsi Suszcza o zwerbowanie osoby na stanowisko sprzedawcy. Nasze starania zmierzające w tym kierunku nie dały jednak pozytywnego rezultatu.

Zdając sobie sprawę ze społecznej wagi zagadnienia podniesiono tę sprawę na spotkaniu kandydatów na radnych z wyborcami, które odbyło się w Suszczy w dniu 4 stycznia 1978 roku, jedna z osób zadeklarowała chęć pracy w dotychczas nieczynnym sklepie. O ile dokona ona niezbędnych formalności związanych z zatrudnieniem, sklep będzie uruchomiony.

**V-ce Prezes**
**d/s Produkcji i Handlu**
**M. Stroczan**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

